"Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць..."

# МАЛАНКА

Бюлетэнь–газета Іркуцкага таварыства Беларускай культуры ім. Я.Д.Чэрскага

№8 (55) ЖНІВЕНЬ 2004 год наклад 800 асобнікаў




## У ЖНІЎНЕ НАРАДЗІЛІСЯ СЯБРЫ НАШАЙ СУПОЛКІ

1 жніўня нарадзілася Надзея Скульбідэнка; 2 жніўня – Аліеў Раміс; 4 жніўня – Лісіцына Таццяна, Лісіцына Наташа; 3 жніўня – Забродская Ларыса Пятроўна; 6 жніўня – Дронава Яўгенія Аляксееўна; 8 жніўня – Краснова Ніна Ігнатаўна, Шынкароў Іван, Аляксейчык Павел Віктаравіч; 9 жніўня – Глухаў Міхась Іванавіч; 11 жніўня – Пацэвіч Сяржук; 13 жніўня – Марыя Фядосаўна Казіначыкава, Пруднікава Ірына; 14 жніўня – Дульчэўская Алена; 17 жніўня – Лісіцын Андрэй Канстанцінавіч; 18 жніўня – Вадарацкі Віктар; 20 жніўня – Пыхцеева Кася; 24 жніўня – Банчук Мікалай Міхайлавіч; 25 жніўня – Корзун Ала Антонаўна; 26 жніўня – Гусева Галіна Асатаўна.

Шаноўныя спадарыні і спадары! Ад імя Рады ІТБК і Рэдакцыі «Маланкі» віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, посьпехаў у справах, асабістага шчасця, добрага настрою і трывалага Кахання!

Спадзяёмся, што Вы заўжды будзіце прымаць актыўны ўдзел у справах нашай суполкі, дый на карысць нашай любай Бацькаўшчыны.

Усяго Вам найлепшага!

# Падзеі і справы ІТБК

## Белорусские потомки знаменитой Столыпенской реформы.

*«Белорусов в Усть-Ордынском бурятском автономном округе очень много, и жена моя белоруска, и тёща, и вся её многочисленная родня,* – так сказал в интервью каналу РТР Валерий Малеев, глава УОБА округа, – *Они ставили здесь крепкие крестьянские хозяйства и первыми в округе начали сеять рожь, пшеницу и вообще обрабатывать нашу землю в сельскохозяйственном плане…»*

В августе этого года нам, благодаря спонсорской поддержке Гацукова Геннадия Васильевича, удалось осуществить этнографическую экспедицию на север Усть-Ордынского бурятского автономного округа в белорусские деревни Тургеневка, Васильевка, Толстовка, Лидинск, Шаманка и Ахины. Этим деревням вскоре исполнится 100 лет.

Безусловно найти хотя бы одного первого переселенца тех столыпенских времён мы в этот раз не смогли (в 1997 году мне посчастливилось разговаривать в деревне Тарнополь с 90-летним дедом Трахимом, который приехал в Сибирь в начале 20-го века). Но зато удивительных, прекрасных, с хорошей памятью, и хорошо сохранившемся белорусском языком детей этих поселенцев я повстречал в большом количестве. Правда, детям этим самим уже под 80 лет, но они ещё достаточно активны, по-деревенски трудолюбивы, и самое главное открыты для общения. Ни разу за всё время экспедиции я не почувствовал дискомфорта. Наоборот меня гостеприимно встречали, кормили, делились откровенными воспоминаниями и давали подарки в виде … старинных ручников и предметов крестьянского быта. Разговаривать с моими сибирскими сородичами было одно удовольствие. Во-первых, потому, что они говорили почти на чистом родном для меня и для них белорусском языке. Во-вторых, не смотря на то, что большинство моих собеседников всю жизнь прожили в своей деревне, меня удивляла их грамотность, их житейская мудрость, их желание поделиться (без нравоучений) своим опытом. В-третьих, я снова и снова открывал для себя частичку белорусского характера. Ну и наконец в-четвёртых, я много записал фактического материала о том как образовались эти деревни, как обустраивались белорусы в сибирском суровом краю, как обогатили они эти места, какие песни и обряды остались в их памяти. В каждой деревни своя уникальность, своя живая история.

Я уже на протяжении 8 лет осуществляю путешествия по прибайкальским белорусским деревням и после каждой экспедиции у меня возрастает гордость за свой народ. Моей главной задачей является не только сбор и подготовка к публикации материалов о великом переселении белорусов в Сибирь, но и налаживание контактов с активными жителями сёл для возрождения культурной белорусской традиции в Прибайкальском крае.

Надеюсь, мне удастся найти средства, чтобы издать отдельной книгой все собранные материалы, все отдельные удивительные истории жизни белорусов в Сибири. Надеюсь, что в этих деревнях возникнут ячейки Белорусского Возрождения.

Алег Рудакоў.

# СТАРОНКА НАРЫСА

## Адзін дзень у Віцебску праз 13 год.

Лісты, лісты, лісты…13 гадоў я магла ўяўляць сабе жыццё на Радзіме з паштовак ды лістоў сваякоў ды з тэлефонных размоў ды з рэдкіх сустрэч на Іркуцкай зямлі з тымі, хто завітае да нас з далёкага роднага краю. Вось некаторыя ўрыўкі лістоў, якія я атрымлівала у розныя гады ад розных сваіх сваякоў з Беларусі:

«…Жизнь в Белоруссии просто на дне. Так плохо народ ещё не жил. Зарплату не платят. Улыбки с лиц людей окончательно исчезли. Хорошо, что мы вместе, друг другу помогаем во всём, ведь за нами - дети, они не должны чувствовать негативных сторон. Ходили на кладбище 14 мая, поставили всем цветочки. Все живут надеждой. Мы всё таки надеемся на встречу с вами. Всегда вспоминаем». 1999 год.

«…Мы о вас всегда помним, любим и ждём. Нам легче, что мы рядом. Все заняты работой, жизненная планка опускается всё ниже и ниже. Предприятия стоят, покупательная способность нулевая. Жуткое несоответствие цен и зарплаты. Что будет дальше – невозможно представить и с большой фантазией». 2000 год.

«…Времени на детей остаётся мало, вернее сил, т. к. очень устаю на работе. Нагрузка большая, а моральная альтернатива в нашей жизни - редкая гостья. Приходится себя просто заставлять. С родными, друзьями встречаемся часто, поддерживаем друг друга. Мы всегда помним о вас, приезжайте, ждём». 1992 год.

«…Как бежит время, замечаем только по детям. Очень устали, жизнь с каждым днём всё больше «радует». Люди в отчаянии, но молчат. Спасает общение, стараемся держаться вместе. Вокруг цены астрономические в сравнении с зарплатой. Но надежда есть, что переживём при моральной и материальной поддержке родных и друзей. Хотелось бы видеть вас, поговорить. Надеемся, что встреча произойдёт». 1996 г.

«…Решила написать хотя бы несколько слов о нашей жизни. Всё некогда, работаю много. Жалко детей, но что делать. Если бы меньше работать самой… Жизнь очень сложная, таких моральных кризисов мы ещё не переживали. Зарплаты минимальные, да и то не выплачиваются вовремя. В магазинах одни товары, людей нет, даже в продовольственных. Сокращения на производствах. Люди на пределе, весной, летом спасают участки, на которых они работают. Слава богу, что мы вместе, помогаем друг другу, ведь за нами дети, они должны чувствовать хотя бы какую – то уверенность. Вчера ходили на балет «Жизель» Мариинского театра. Столичный уровень чувствуется. Все надеемся, что вы приедете». 2002 год.

«…Жить надо каждым днём и желательно положительными эмоциями. Благодарить за каждый день. Мы постоянно вспоминаем родителей, вашу маму, бабушку, сколько в них было душевного тепла, заботы о других. Надеемся, что этим летом вы посетите давно забытые края». 2003 год.

«…Мы всегда ждём вас, приезжайте, чтобы быть рядом, растить детей вместе. Они должны быть внимательные и дружные в этой жизни. Все те, кого мы любим, всегда с нами, они живы в нашей памяти, о них должны знать наши дети. А мы должны любить их за бабушек и дедушек». 1998 год.



«…Столько проблем в этой жизни, что остаётся радоваться приятным мелочам Главное – надежда, что когда – то мы посидим за прекрасным столом вместе. Будем надеяться, что этот год устроит встречу». 1997 год.

«…Все заняты, все работают, но больше всего тяготит наш быт, который отнимает много времени и сил. Свободное время проводим в кругу родных, друзей. Надеемся, что в ближайшем будущем встретимся, несмотря на все перипетии. Главное – душевное родство, потребность в родных и друзьях». 1994 год.

«…Погода пока не балует. Но мы настроены оптимистично. Планов на лето нет. Думаю, что будем наслаждаться природой Беларуси. Ждём в гости». 1995 год.

2004 год. Як доўга мы чакалі сустрэчы. Я ў Віцебску праз 13 гадоў небыцця і ўсяго на адзін дзень. Ужо няма маёй сьветлай бабулі, няма бацькоў і шмат іншых блізкіх родных. Жыццё чалавека карацейшае за жыццё гарадоў у шмат разоў.

Хочацца пабачыць бабуліну бярозу пад вакном. Яна пасаджана яшчэ ў нашым дзяцінстве. Цяпер ёй больш за 30 гадоў. Ці ёсьць яна? Убачыла яе і не пазнала. Тонкая калісьці бярозыня ўзьнялася ўвысь да чацьвёртага паверху. Знізу таўстая ды ўся чорная, так што адразу падумалася, што гэта ўжо якое іншае дрэва, а тое ўжо загінула. Супраць гэтага ўсё засупраціўлялася ўнутры і адлягло, калі неяк неўзначай я ўскінула вочы к небу. Нічога сабе…Ды вось жа яна якая.

Кіраўскі двор. Калісьці вось з гэтага месца я ўбачыла сваю бабулю ў двары. Мне тады зрабілі аперацыю і я вярталася дадому са шпіталю. Было мне 7 год. І цьвілі ліпы. І лёгкае паветра дыхала цеплынёй адвячорку.

*(Працяг на бач. 3)*

# Адзін дзень у Віцебску праз 13 год.

(Працяг. Пачатак на бач. 2)

І здавалася – толькі трэба чагосьці пажадаць – і ўсё проста так і будзе, будзе так, як пажадаеш. Я кінулася да бабулі… я не бачыла яе 7 дзён,…а бегчы не магу.

Па вуліцы Кірава, па Леніна у суботнюю раніцу цяпер іду – пылінкі анідзе няма, усе бартоўкі бялёныя – асалода. Ужо высаджаны прыгожыя раннія крокусы. Рэклама на рэкламе не сядзіць і не паганяе рекламу паўсюль, як у Іркуцку. Усё вытрымана бяз лішкаў, стрымана прыгожа усё, стыльна ўсё, знешне сьвяточна, веюць сьцягі.

3 красавіка – суботнік! Рэкламы як ў Іркуцку пра суботнік ці месячнік уборкі гораду няма, але на суботнік ідуць усе. Па гэтай прычыне не сустрэлася з роднымі у першай палове дню. Звычайная карціна – гэтыя суботнікі – адказалі яны.

Віцебчане кідаюць асобна бруд шкляны, асобна бруд папяровы, асобна пластыкавы ў спецыяльныя кантэйнеры. І самі не брудзяць. Бруд ад тых, хто прыехаў – лічаць яны.

Гараджане выконваюць правілы руху на дарозе абавязкова, у тым ліку тады, калі машын няма і калі няма міліцыянераў…таксама выконваюць і іншых , хто прыехаў,выхоўваюць у гэтым сэнсе.

Беларуская мова гучыць на чыгунке ды назвы крамаў паказваюць, што мы ў Беларусі. Шмат у Віцебску сваіх прыгожых гандлёвых пунктаў ад мясцовых фабрык і прадпрыемстваў. І што датычыцца якасьці тавару, то усё на ўзроўні…бярэш – не хвалюешся. Нават рэкламу ў газету можна даць толькі маючы ліцэнзію.

На беларускай мове ў горадзе не размаўляюць Ёсьць толькі акцэнт з «ч». Сваячніца, якая працуе ў структуры адукацыі Віцебскай вобласьці, адзначае, што ў гарадах выкладанне на беларускай мове складае прыблізна 7%, у сельскай мясцовасьці – 70%.

У Віцебску існуе беларуская гімназія, у якой у тым ліку выкладаюцца: «Мая краіна Беларусь» (гістарычны курс), «Чалавек і сьвет» (курс, заснаваны на геаграфічных звестках), вядома, што беларуская мова ды літаратура выкладаюцца. У такой навучальнай установе вучыцца ў шостым класе мой дваюрадны брацік Арсень. Вучыцца яму падабаецца.

Ёсьць у Віцебску дзіцячы інструментальны ансамбль, у якім граюць на старажытных беларускіх музычных інструментах і сьпяваюць. Пабываць у этнаграфічных экспедыцыях у глухіх беларускіх вёсках - гэта іх вельмі захапляе, гэта ім цікава – так распавядае мне Варвара, якую я бачыла апошні раз у 2-х-гадовым узросьце. Цяпер гляджу на прыгожую дзяўчынупадлетка -ўжо ў яе свой мір ёсьць, свой выбар зроблены.

Пакуль мае родныя працавалі на суботніках, завітала да 82-гадовай цёці Люсі ў Замасточча. Там мала што змянілася. Кнігі ды кветкі ў хаце. А мая любімая цёця Люся сядзіць і працуе над родаводам. 7 пакаленняў нашай радавы – на яе карце. Божачкі, які труд. Пра ўсіх усё ведае. Я была шчыра ёй удзячна, што будзе нашым дзецям вядома, хто ёсьць хто ў нашай радаве. Добрага Вам здароўя, любімая цёця Люсечка.

Улетку ў Віцебску адбываецца ўсім вядомае сьвята «Славянскі базар». Калі ён пачынаўся год 15 таму – гэта было магчыма – пайсьці паглядзець адзін-другі канцэрт…Але цяпер мясцовыя жыхары амаль туды не ходзяць. Усё ўпіраецца ў грошы ды і настрой адпаведны павінен быць для такога адпачынку і жаданне….

Працавітыя і дысцыплінаваныя жыхары жадаюць аднаго – упэўненасьці ў будучыне.

Дзень скончыўся. Жыццё бяжыць далей. Калі цягнік ужо пачаў свой рух з Віцебску ў Маскву, з Віцебскага перону данеслася «Жыве Беларусь!» і мы паехалі ў Іркуцк.

У цягніку ёсьць час паразважаць аб мінулым, ёсьць час прагледзець віцебскія газеты «Вечерний Витебск» і «Витебский курьер». Так, што там пішуць на Радзіме?

Газеты рускамоўныя.

Про частных предпринимателей: сегодня в Витебске более 700 ларьков Ч П. Тем, которые попали в зону реконструкции города на Привокзальной площади, на улице Чкалова, по Московскому проспекту решением исполкома предоставлено на выбор 5 площадок…вдалеке от людных мест, где предприниматели могут продолжать развивать свой бизнес. Это не 1-апрельская шутка.

Про субботник: по предложению трудовых коллективов субботник пройдёт в несколько этапов… Напечатано в рубрике: «Вчера, сегодня, завтра».

Про Полоцк: выставка «Мой родны край на почтовых марках» открылась в 13 отделении связи. Первыми белорусскими марками почтовые знаки БНР. Первая марка Республики Беларусь была издана в 1992 году , на ней изображён крест Ефросинии Полоцкой. 900-летие со дня смерти Всеслава Чародея отмечено в 2001 году специальным конвертом.

Про университет: открылся факультет журналистики в Витебске. В этом году будет первый выпуск по специальности: «Филолог. Преподаватель белорусского языка, литературы и литературный сотрудник» - 19 человек.

Таццяна Бізікава.

# Лёс беларуса

Ад рэдакцыі: Сёньня мы друкуем фрагмент кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клёнтак «Успаміны». Гэтую кнігу нам даслаў з Беластоку спадар Алег Латышонак, які ў 2000 годзе прыязджаў да нас у Іркуцк на Канфэрэнцыю зладжаную польскім цэнтрам «Агніва» й завітаў да нас у суполку. Зараз мы з ім маем сталае ліставаньне. І вось цікавая дасланая кніга. У гэтым нумары мы друкуем ўспаміны Анелі Катковіч, бо яны датычуцца перыяда ссылкі ў Іркускую вобласць. Нагадаем, што гэта кніга выпушчана ў Беластоку, й таму мы захоўваем правапіс арыгіналу, не прэтэндуючы на тое як больш правільна пісаць па-беларуску.

## Успаміны



Анеля Катковіч і Вераніка Катковіч – Клёнтак

...Мяне з Вэрай судзілі завочна. Не прысутнічалі мы на сваім судзе, не бараніў нас ніякі адвакат, не маглі сказаць ні аднаго слова ў сваеё абароне. Ды якая была розьніца, засудзілі каго на 10 ці 25 гадоў лагера! Пакуль жыў Сталін, ніхто з палітычных вязьняў з такога лагера дамоў не вяртаўся! Большасьць памірала не адбыўшы кары, а тыя, якія ператрывалі, ішлі на «вольное поселеніе». Іх выпускалі з лагера, не дазваляючы аддаляцца далей як 100 – 200 км. Пачынай жыць, як хочаш. Выходзячы з лагера, кожны быў інвалідам нездольным да працы й адсядзеўшы тэрмін трэба было шукаць сродкаў да жыцьця. Як-жа дрыжэлі заключаныя на думку аб прыбліжаючымся заканчэньні кары! У лагеры мелі хоць дзе прылегчы й міску аўсянкі, а там, па-за лагерам, што каго чакала? Так выпушчаная на волю адна Полька, Гэнрыка Гроссэк са Львова, якая была зусім нездольная да працы, села пад плотам і не пайшла нікуды. Выпадкова нехта з вольных ёй заапекаваўся. Адправілі яе ў Польшчу. На бацькаўшчыне яна хутка памерла.

Этап

Забралі мяне на этап разам з Вэрай і Славікам. Не далі для малога ані чыстых пялюшак, ані харчоў адпаведных. Не дазволілі паведаміць родных аб нашым лёсе. Ніхто да нас ніколі не прыехаў, ніхто не перадаў ніякай перадачы, бо ніхто пра нас ня ведаў.

Завялі нас у цягнік з вагонамі прызначанымі для перавозу заключаных. Народу было многа. У вагонах былі полкі. Вэры загадалі сесьці з сынам на верхняй полцы, на якой фактычна сядзець было немагчыма, бо замала было месца, галава ў столь упіралася. Трэба было там увесь час ляжаць. Славік плакаў, бо было горача й душна, а ён ляжаў мокры. Вэра не мела ў што яго перавіваць. Карміла малога грудзьмі, але гэта таксама было нявыгадна рабіць ўсьцяж у ляжачай позе. У дарозе давалі сухія сухары й ваду. На вярху задыхаліся, ды і ўва ўсім вагоне было душна. А Славік плакаў і плакаў, хацеў на паветра.

У такіх умовах даехалі мы да Масквы. Там нас завезьлі ў перасылачную турму на Бутырках. Мяне з Вэрай разлучылі, але на гарачыя просьбы Вэры пасля аднаго ці двух дзён ізноў злучылі. Пакуль я была адна, мела магчымасьць убачыць, у якіх умовах знаходзіліся цэлы дзень вязьні ў пачакальні. Была яна такая брудная й цесная, што аж пісаць пра гэта непрыемна. У кутку стаяла перапоўненая параша й ляжалі кучы чалавечага калу кругом яе.

Шчасьлівей адчула сябе я, калі мяне перавялі да Вэры. Яна сядзела ў камэры прызначанай для матак з малымі дзецьмі. Тут магла я забаўляцца Славікам, які ў той час быў вельмі пацешным хлопчыкам. Не абмінуў яго ані адзін надзірацель правяраючы камэру, падышоўшы да Славіка мусіў абавязкова ўзяць яго на рукі. Меў Славік белыя валаскі, блакітныя вялікія вочы й рэгулярныя рысы твару. Нягледзячы на тое, што нарадзіўся ў турме й адразу пасля нараджэньня выглядаў як малы старычок – такі быў паморшчаны. Дзякучы таму, што Вэра мела многа малака ў грудзях, прыйшоў да сябе й маючы сем месяцаў быў вялікім, ружовенькім, прыгожым хлопчыкам. Родзячы яго Вэра тры дні мучалася – рабілі кесараў разрэз і лекары ня мелі надзеі, што ён выжыве. Ці магло быць іначай пасьля такой цяжкай турмы ў Варшаве?

Былі мы так у Маскве цэлы тыдзень разам. Марылі аб тым, каб паслалі нас вадно й тое самае месца. Разам даехалі мы з Масквы ў Горкі. Хутка пасьля прыезду туды пагналі нас у лазьню, забіраючы рэчы ў пражарку. У гэтай пражарцы зусім спалілі Вэрына каракулавае футра. Але ня гэта было для нас найцяжэйшае. Многа нэрваў каштавала нам лазьня, у якую муселі мы ісьці са Славікам. У разьдзявальні было вельмі халодна й мы баяліся, каб ён не прастудзіўся. Лазьня была так перапоўненая, што не было дзе прытуліцца, а мы мелі з сабою дзіця. Паставілі нас пад халодны душ. Было поўна дыму й пары. Славік увесь час плакаў, а мы таксама, бо прадчувалі нешта кепскае. Пасьля лазьні нас разлучылі. Вэру яшчэ раз павялі адтуль са Славікам у лазьню, аб чым я пачула ад яе будучы на волі. Тады мы больш зь ёй ня ўбачыліся. Яе накіравалі ў Казахстан, а мяне ў Іркуцкую вобласьць.

*(Працяг на бач.5)*

# Успаміны

(Працяг на бач.5)

Некалькі дзён сядзела я яшчэ ў Горкім. Пасьля лазьні я была моцна прастуджаная. Помню, ляжаў мне вялікі цяжар на грудзях, ня мела чым дыхаць. Былі заложаны нос і горла, павысілася тэмпэратура. А вязьняў процьма. Набітая камэра, ані павярнуцца. Галава не пераставала мне балець ад Менску.

Пакуль я даехала ў Іркуцкую вобласьць, затрымлівалася ў многіх гарадах у перасылачных турмах. Усюды поўна было народу. Ехалі жанчыны й мужчыны, палітычныя й крымінальныя вязьні. Людзі навукі й зладзеі. Памешаныя былі мы ўсе разам. На нарах не хапала месца. Ехалі зачыненым таварным цягнікам цэлымі месяцамі. Дзверы адчынялі, калі прыносілі есьці. У вагоне былі толькі жанчыны. Са мною ехала многа масквічак – жонак вялікіхураднікаў. Былі багата апранутыя й адчувалі сябе лепшымі, чым іншыя. Вось яны пазаймалі лепшыя месцы на нарах і выгадна спалі, у той час, як многія ноч і дзень сядзелі скурчыўшыся на мокрай падлозе вагона. Сама я мела месца да спаньня сярод Грузінак. Гледзячы, як мучацца іншыя на зямлі, яна ноччу ўставала і ўступала сваё месца каторай-небудзь жанчыне з падлогі. Гэтымі паводзінамі нажыла ворагаў сярод Грузінак, бо ўстаючы часта іх разбуджвала. Між намі найбольш было Украінак. Астанія – розных нацыянальнасьцяў. Мела я з сабою крыху прыгожых рэчаў, асабліва быў прыгожы японскі халат, які адразу падгледзілі блатныя й пастанавілі мяне абакрасьці.

У Маскве далі мне целагрэйку, бо я з сабою мела толькі летнія рэчы. Якая-ж гэта была целагрэйка! І верх, і падшэўка такія брудныя, што нельга было пазнаць, якога былі калісь колеру! Так верх, як і спод былі чорныя й сьмярдзючыя. Хусткі цёплай у мяне не было.

### Ад Будслава да ГУЛАГа

Калі мяне арыштавалі ў Варшаве, я пасьпела ўзяць з шафы пані Цірбах свэтар, штаны, ручнік і закапянскія капцы; пакінуўшы распіску на гэтыя рэчы аб тым, каб яна ў Бэрліне ўзяла сабе ўзамен з пакінутых там маіх рэчаў. Прапала-б я зусім, калі-б ня мела з сабою тых рэчаў!

Калі мы прыехалі ў Іркуцкую вобласьць, быў такі вялікі мароз, што адразу некалькі жанчын адмарозілі сабе насы.

Накіравалі мяне ў Тайшэцкія лагеры Іркуцкай вобласьці, недалёка ад возера Байкал, у г.зв. Ангарлаг*.

*(*Ад рэдакцыі «Маланкі»: Тайшэцкія лагеры ад Байкала па прамой лініі знаходзяцца блізу 650 кілометраў. Але сібіракі сапраўды іншым разам лічуць, што гэта «побач».)*

### У лагеры

Прывялі нас у барак, перапоўнены вязьнямі. Пасярэдзіне яго стаяла печка. Далі месца на нарах, на якіх ляжаў сяньнік набіты саломай і марны стары плед. Падушкі ніякай не было, і ня бачыла я яе аж да вызваленьня. Было амаль цёмна. Барак асьвятляла маленькая лямпа-капцілка. Дрыжэла я ад холаду й заснуць не магла.

За парадкам у бараку глядзела т.зв. дневальная. Яна печку паліла і падлогу мыла, прыносіла ваду і г.д. На ноч баракі зачынялі. Увесь лагер быў агароджаны высокім плотам з нацягнутым зьверху дротам, а па вуглах стаялі вышкі для стражнікаў.

На другі дзень далі нам вопратку: брудныя, палатаныя старыя бушлаты, ватныя, таксама старыя, штаны, шапкі і валёнкі – кожны іншы. Адзін валёнак быу высокі і шэры, другі цёмны, карычневы й кароткі; адзін замалы, другі завялікі. Бялізну казённую далі, таксама й ручнік. Вывелі нас перад баракамі і пастроілі ў пяцёркі. Атрыманая вопратка так нас зьмяніла, што нікога з нас немагчыма было пазнаць. А я чую: кліча хтосьці мяне па імені. Пытаюся: „Як вы мяне пазналі?" Адказалі: „Па пояску!" Бушлат свой я перавязала была пояскам ад свайго японскага халата.

Раней, чым мы выйшлі на работу, пасьнедалі ў лагернай халоднай, задымленай, цёмнай, перапоўненай парай сталоўцы. Далі нам па кавалачку хлеба й аўсяны суп. Такі суп мы елі тры разы ў дзень. Як жа надаела нам тая аўсянка!

Вывелі нас на дарогу адкідаць сьнег. Мароз вялікі, што сьлёзы замярзаюць. Мерзьне нос. Стараемся яго абвязаць хустачкай, але яна робіцца шорсткая і замярзае ад дыханьня.

У бараках пераважала ўкраінская мова. Мужчын у нашым лагеры не было. Усе мужчынскія работы выконвалі жанчыны.

Далі мне першую катэгорыю, г.зн. залічылі да наймацнейшых і паслалі на лесапавал. Трапіла я ў калону 9, якая ня мела вады. Прывозілі ваду з ракі, адлеглай 12 кілямэтраў ад лагера. Спецыяльныя брыгады дзень і ноч разьбівалі лёд, які прывозілі ў лагер, растаплівалі й на такой вадзе варылі страву, бралі ў лазьню, мылі бялізну і г.д. Можна сабе ўявіць, як цяжка было здабыць кубачак вады, калі піць захацелася. Тапілі й пілі сьнег тады. Вельмі доўгі час я ня мела лыжкі й суп піла зь міскі, а калі была яшчэ якая каша ці бульба, то ела скарынкай хлеба.

Пачала я хадзіць у лес звальваць велізарныя сосны, пілаваць іх і грузіць на машыны. Выводзілі на работу пяцёркамі, акружаных стражнікамі й сабакамі. У лесе назначалі граніцы, якія ня мелі мы права пераступіць. Аднойчы стражнік сказаў аднэй брыгадзірцы пайсьці й прынесьці нейкія дровы, якія ляжалі на вызначанай граніцы. Калі яна падышла да гэтага месца, ён выстраліў і забіў яе. Пасьля сказаў, што яна ўцякала. Куды хто мог уцячы – ў такі мароз, у тайгу з драпежнымі зьвярамі? Здаралася, што хто-небудзь прабаваў уцячы. Хутка такога сьмельчака лавілі й расстрэльвалі. Нам часта чыталі прыказы аб расстрэле за пабег.

Брыгадзірамі нашымі былі крыміналісты – забойцы або зладзейкі. Не любілі яны палітычных вязьняў і мелі тут нагоду пазьдзекавацца над імі.

Мне было асабліва цяжка, бо я была хворая, а сама ня ведала, якой хваробай. Мне вельмі балела галава й адчувала слабасьць.

(Працяг на бач.8)

# СТАРОНКА НАРЫСА

Ад рэдакцыі: На просьбу нашых чытачоў мы друкуем артыкул Вінцука Вячоркі пра асноўныя прынцыпы клясычнага беларускага правапісу. Справа ў тым, што зараз у самой Беларусі існуе як бы дзве традыцыі напісаньня на беларускай мове. Некаторыя нашы чытачы жадаюць бліжэй пазнаёміцца з класічным (тарашкевіцай) стылем. Вось мы і друкуем гэты артыкул.

## Пішам тарашкевіцаю

*10 памятак беларускага правапісу*

Да 30-х гадоў беларускі правапіс разьвіваўся паступова й натуральна. Стыхійны адбор лепшых напісаньняў ішоў да 1918 году, калі Браніслаў Тарашкевіч упарадкаваў правапіс і граматыку. Сыстэма тарашкевіцы ўдакладнялася, пашыралася працаю іншых навукоўцаў (Язэп Лёсік, Ян Станкевіч), супольнаю думкаю беларускіх мовазнаўцаў (Акадэмічная канфэрэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, Менск, 1926).

У БССР правапіс і граматыка Тарашкевіча былі ў 1933 годзе скасаваныя ды замененыя — зьнянацку, гвалтам, пры вымушаным маўчаньні навуковае грамады — на зрусыфікаваныя. На тое была адпаведная пастанова «Совнаркома». У Заходняй Беларусі, на эміграцыі ўвядзеньне наркомаўкі сустрэлі пратэстамі й надалей пісалі паводле Тарашкевіча, паводле жывое мовы. Асобныя непасьлядоўнасьці (правапіс **й, ў;** правапіс чужаземных словаў з дыфтонгамі) парадкаваў Антон Лёсік, а на эміграцыі —Ян Станкевіч, Валянтына Пашкевіч, іншыя.

Наркомаўка розьніцца ад тарашкевіцы найперш адарванасьцяй ад жывое мовы й клясычнае традыцыі беларушчыны. Рэформа 1933 году жывасілам увяла ў нашую мову неўласьцівыя ёй граматычныя формы й нават вымаўленчыя правілы. Зьмянілі слоўны запас, касуючы самабытнае ды ўводзячы «объединяющее», зьмянілася нават будова сказаў. Таму, каб вярнуцца да жывое тарашкевіцы, замала толькі пісаць і вымаўляць па-тарашкевічаўску, па-купалаваму. Але з чагось пачынаць трэба. Зручней — з правапісу.

**ДЗЕСЯЦЬ ПАМЯТАК** — для тых, хто ўмее пісаць наркомаўкай. Яны датычаць толькі правапісу (не граматыкі, г.зн. зьмены словаў). Тарашкевіца прасьцейшая ад наркомаўкі, бо ў ёй нашмат менш выключэньняў, да яе амаль заўсёды стасуецца прынцып «як чуваць, гэтак пішацца — і наадварот». Толькі бяда, што дзесяцігодзьдзі панаваньня наркомаўкі прывучылі многіх вымаўляць беларускае слова няслушна: чэШСкі, нЕ буду (трэба: **чэскі, ня буду** — прасьцей і больш сьпеўна). Але праз тарашкевіцу ёсьць шанец вярнуць нашай мове спрадвечную мілагучнасьць.*

1. Мяккі знак, як і належыць, пазначае мяккасьць: **сьвята, абедзьве, празь мяне, цьвёрды, сьцьвердзіць у Фроньце ды ў Кліўленьдзе**.

Пасьля С З Ц ДЗ Н **Ь** пішацца перад мяккімі зычнымі, апроч Г К Х.

(Нагадаю: мяккія будуць тыя зычныя, за якімі йдуць І Е Ё Ю Я Ь).

**СЬвіснуў,** але **скінуў; раСЬлі,** але **беларускі. ЗЬ** Лёдзяю, але з **Лукашом, з Кірпатрыкам.**

2. Разьдзяляльны мяккі знак пішам пасьля С З Н Л перад Е Ё Ю Я, а таксама І, калі яно пад націскам: **бязьядзерны, зьеду, пасьянс, маньяк, зь імі ці бязь іх.**

3. Доўгія мяккія гукі пішам праз мяккі знак: **калосьсе, палозьзе, судзьдзя.** Ня тычыцца прыставак на Д: **ад-дзел, ад-цеміць.**

4. Зьбегі зычных пішуцца як чуваць: **чэх — чэСкі, Парыж —парыСкі, у Рызе — рыСкі. УзбэЦкая й КазаСкая** рэспублікі. **ГагауСкая** праблема.

Увага: **швэд-скі** вымаўляем «швэцкі», але замест глухога Ц пішам звонкае ДЗ: **швэДЗкі, гараДЗкі, ірлянДЗкі.**

Пішам, як чуваць: **еЖДЖу, пяШЧаны, пакаШЧык** (варыянт А.Лёсіка і Я.Станкевіча). **Я сьмяюся — ты сьмяесься.**

Ня тычыцца прыставак і прыназоўнікаў: **сшытак, разжыўся, бяз Чорнага.**

5. **У І** заўсёды скарачаюцца пасьля галосных, калі перад імі няма знаку прыпынку й на іх ня падае націск: **на Украіне, на ймя, Ганна йшла, ва ўнівэрсытэце, я й кажу, на Йвана, Тайлянд, аўдыякасэта, Модраў з Чаўшэску.** Увага: **калёквІЮм, кансылІЮм.**

6. Чужаземныя (заходня-эўрапейскія) словы маюць Л мяккае, як і ў тых мовах, адкуль яны прыйшлі: **лямант, акуляры, калёна, плян, клямка, плюралізм, клюб, мэталь, дэталь.**

Увага: у канцы слова можа быць Л цьвёрдае: **генэрал.**

У расейскай мове тут непасьлядоўнасьць: **Финляндия — Голландия, люмпен — луза,** бо словы йшлі праз кнігу. На Беларусь жа заходнія словы, найперш лацінскія й нямецкія, траплялі праз жывы кантакт з носьбітамі гэтых моваў, праз масавае вывучэньне тае ж лаціны ў сярэднявечнай школе.

7. З гэтае ж прычыны ў чужаземных (заходня-эўрапейскіх) словах пасьля зычных, акрамя Л і К, пішам Э: **пэрыяд, мэтар, сэрвіс, праспэкт, газэта.** Але: **анкета.**

Увага: пасьля Г і Х можа пісацца Е: **хЕўра й хЭўра, гЕнэрал і гЭнэрал.**

У чужаземных словах пасьля З С Д Т пішацца й вымаўляецца Ы: **сынонім, дыктар, максымум, Бразылія.**

Увага: **-зія, -сія, -зійны, -сійны** пішацца праз І: **калізія, камісійны, сэсія.**

Варта зацеміць таксама: **нактурн, мініятура, Эўропа, эўрапейскі, нэўтральны.**

8. Вымаўляецца й пішацца **-ТАР, -ДАР** у словах: **тэатар, мэтар, літар, кадар, монстар** і падобных. Але: **36 кадраў.**

Варта зацеміць: **нэрва, інтэрвію.**

9. Пасьля У вымаўляецца й пішацца В перад А: **у вадзін** вагон, **у варанжавым** сьвятле, **у Вангельшчыне.**

10. Е пераходзіць у Я ў першым складзе перад націскам у **НЕ** й **БЕЗ**, нават калі яны пішуцца асобна: **бяз волі, ня прыйдзеш,** але: **без ахвоты, не вызначальны.** Тарашкевіца мае пэўныя іншыя правілы артаграфіі, напрыклад, досыць складанае правіла пераходу Е ў Я (цяперашняе афіцыйнае — зручнейшае), дэталі пададзеных тут правілаў. Мы ж падалі найважнейшае, дастатковае для таго, каб пісаць тарашкевіцаю.

**Вінцук Вячорка**
**«Наша Ніва», 1,1991**

# Жыццё беларускіх дыяспар

## Беларускаму Ліцэю ў Бельску-Падляшскім – 60 гадоў!

### Гісторыя Ліцэя

Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім паўстаў у верасні 1944 г. Першым дырэктарам быў Анатоль Тымінскі. Школа размяшчалася ў драўляным будынку, урокі адбываліся пасля абеду ў вельмі цяжкіх умовах.

У 1946 г. загадам Беластоцкай Школьнай Акругі ліцэй быў зліквідаваны. Пасля трохгадовага перапынку, дзякуючы намаганням бацькоў і беларускіх дзеячаў, утвараецца Агульнаадукацыйная школа з беларускай мовай навучання, якая зноў пачала працу 1 верасня 1949 г., а дырэктарам стаў галоўны яе арганізатар, педагог і выхавальнік Яраслаў Кастыцэвіч. Дзякуючы яго намаганням і намаганням настаўнікаў, а таксама Бацькоўскага камітэту ў 1958 г. пад пабудову школы было вызначана месца ў гарадскім парку.

У цэнтры горада вырастае новы будынак на 17 класаў, у які пераходзіць школа ў пачатку 1961 г. Моладзі прыбывае. У 1965 г. наступае падзел школы на Ліцэй і Пачатковую школу. У тым жа 1965 г. адыходзіць на пенсію Яраслаў Кастыцэвіч. Новым дырэктарам становіцца Мікалай Гайдук, вядомы аўтар многіх падручнікаў, пісьменнік, рэдактар "Нівы", збіральнік фальклору.

У 1968 г. Ліцэй набірае трэці аддзел першых класаў, што дае магчымасць стварыць уласны настаўніцкі калектыў. 5 сакавіка 1969 г. Агульнаадукацыйнаму ліцэю з беларускай мовай навучання даюць імя Браніслава Тарашкевіча. У 1971 г. адыходзіць з пасады і пераязджае ў Беласток Мікола Гайдук, а дырэктарам становіцца выпускнік Варшаўскага універсітэта Аляксей Карпюк.

Сямідзесятыя гады прыносяць чарговыя дасягненні ў развіцці школы. Павялічваецца колькасць класаў. З 1974 г. ліцэй набірае 4 першыя класы. У школу прыходзіць больш здольная моладзь, а лік кандыдатаў перавышае колькасць месцаў. Ліцэй дабіваецца высокіх паказальнікаў працы, у вышэйшыя ўстановы паступае 50% моладзі. У другой палове сямідзесятых вучні ліцэю пачынаюць дабівацца дасягненняў у прадметных алімпіядах. У 1980 г. Бацькоўскі камітэт уручае школе сцяг, а віцэ-міністр асветы З.Гушча ўзнагароджвае Ліцэй Медалём Камісіі Народнай Адукацыі. У пачатку дзевяностых у школе і ліцэі вучыцца 1,5 тысячы моладзі.

Пачатковая школа і Агульнаадукацыйны ліцэй імя Б.Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім з'яўляюцца цэнтрам беларускасці як для грамадства, так і для наведваючых гасцей. Прыязджаючы ў Бельск, сюды накіроўваюцца журналісты. На працягу дзесяцігоддзяў Ліцэй наведвалі многія дэлегацыі з былога СССР, ЗША, Англіі, Канады. Ліцэй падтрымлівае кантакты з Беларускім Гуманітарным Цэнтрам у Мінску.

Дапамога з Беларусі становіцца больш канкрэтнай. У 1989 г. першыя выпускнікі ліцэяў з беларускай мовай навучання ў Бельску і Гайнаўцы паступаюць у беларускія навучальныя ўстановы без экзаменаў на падставе падпісанага пагаднення паміж Беларускім Грамадска-Культурным Таварыствам і Міністэрствам Адукацыі Беларусі. З таго часу кожны год звыш 10 выпускнікоў Ліцэю ідзуць вучыцца ў вышэйшыя ўстановы Беларусі.

У 1990 г. Беларускі Фонд Культуры задэклараваў дапамогу ў абсталяванні кабінету Беларускай мовы. Мастацкую апрацоўку зрабіў вядомы беларускі мастак Ігар Марачкін. Год 1992 быў багаты візітамі паважаных гасцей: Міністр адукацыі Беларусі Віктар Гайсёнак, Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, Міністр Замежных спраў Пётр Краўчанка, пісьменнік Васіль Быкаў і інш.

Дыдактычныя вынікі ніколі не засланялі беларускага характару школы, якая праз дзесяцігоддзі прапагандуе беларускую культуру сярод моладзі і ў асяроддзі. Школа арганізавала і арганізуе незлічоную колькасць сустрэч з людзьмі культуры, ансамблямі, беларускімі пісьменнікамі і паэтамі Беласточчыны і Беларусі.

*Зінаіда Навіцкая*

### Таронта, Канада

Таронцкі аддзел "Згуртаваньня Беларусаў Канады" рыхтуе 26-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая мае адбыцца сёлета ў Таронта, Канада. Тэма сустрэчы: "Праблемы зберажэння культурных набыткаў, мовы і гістарычных каштоўнасцяў Беларусі". Падчас Сустрэчы адбудзецца выстава беларускіх мастакоў Канады й Злучаных Штатаў Амерыкі. Арганізацыі-фундатары: "Згуртаваньне беларусаў Канады", "Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне".

### Астана, Казахстан

У Астане прайшоў V гарадскі фестываль дружбы народаў Казахстана. Беларускі культурны цэнтр, якім кіруе Аляксандра Раманава, прапанаваў на суд гледачоў і журы разнастайную праграму. Тамара Батрак, актывістка цэнтра, кіраўнік мастацкага калектыву, якая добра валодае беларускай мовай, распачала праграму прывітальным вершам Петруся Броўкі "Калі ласка!" З кожным годам павышае сваё выканаўчае мастацтва ансамбль "Вясёлка". На фестывалі ён парадаваў гледачоў беларускімі песнямі "Чаму ж нам не пець", "Бульба", "Родны край", прыпеўкамі. Рэпертуар калектыву значна ўзбагаціўся пасля таго, як Тамара Батрак з дачкою Вікторыяй, таксама актывісткай цэнтра, пабывалі на курсах для кіраўнікоў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці ў Мінску, якія штогод праводзіць Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

### Стакгольм, Швецыя

У Стакгольме адбыўся ўстаноўчы сход "Зьвязу беларусаў Швэцыі" – арганізацыі, якая аб'яднала ўсіх беларусаў, што сёлета апынуліся ў гэтай паўночнай краіне. Ініцыятарамі падзеі сталі новыя эмігранты, аднак доступ у шэрагі арганізацыі адчынены для ўсіх свядомых беларусаў, хто на чужыне не забыўся на сваю Бацькаўшчыну.

Стварэнне "Зьвязу беларусаў Швэцыі" – адметная падзея ў беларускім замежжы. Гэта азначае, што яшчэ адну краіну Еўропы можна залічыць да шэрагу дзяржаваў, дзе існуе арганізаваная і актыўная беларуская прысутнасць. Аднак, гэтая падзея мае яшчэ адну важную асаблівасць. Арганізацыя стварылася ў выніку аб'яднання двух самастойных суполак, якія вырашылі, што маюць падобныя мэты і хочуць працаваць далей разам. Мусім адзначыць, што падобная з'ява не часта назіраецца ў беларускім руху на эміграцыі.

*Матэрыялы паводле бюлетэню ЗБС "Бацькаўшчына"*

# Успаміны

*(Працяг. Пачатак на бач.4,5)*

А трэба было дараўнаць дужым украінкам ці латышкам, якія прывыкшы былі выконваць мужчынскія работы. Як пасьля некалькі гадоў пазьней аказалася, я была хворая гіпэртаніяй – мела вельмі высокі ціск крыві. Нікому не прыйшло ў галаву зьмерыць мне крывяны ціск, а і я сама пра такую хваробу, ня чула. Маіх скаргаў на боль галавы ніхто ня слухаў. Ня выканаўшы нормы, я менш, чым іншыя, даставала хлеба ці цукру. Брыгадзіры ўсьцяж на мяне крычалі. Бывала, ледзь дабяруся да нар пасьля работы, варочаюся сагнуўшыся, толькі выцягнуся на сяньніку, каб адпачыць, а тут прылятае брыгадзір і загадвае йсьці на разгрузку вагонаў…

Анеля КАТКОВІЧ.

# Музычны Куфар

## Гарадок, Польшча

Мінскія гурты "Тарпач", "Тахі" і "Сонцазварот" ды варшаўская капела ГМП – гэта лаўрэаты закончанага ў Гарадку на Беласточчыне 15 Фестывалю Музыкі Маладой Беларусі "Басовішча'2004". "Тарпач", які грае музыку з памежжа панк-рока і хардкору атрымаў узнагароду Радыё "Беласток": магчымасць запісу альбому ў музычнай студыі. Фінансавую ўзнагароду гэтаму гурту прызнала Беларускае Аб'яднанне Студэнтаў БАС. Медыяльным патронам "Басовішча'2004" і фундатарам узнагароды было таксама Радыё "Палонія". Нашая радыёстанцыя грашовай узнагародай адзначыла беларускі гурт "Тахі".

Сёлетнім "Басовішчам" моцна задаволеныя арганізатары. Паводле Ілсны Карпюк, старшыні БАСу, падчас фестывалю ўдалося рэалізаваць усе намеры. На сёлетнім Фестывалі Музыкі Маладой Беларусі выступіла звыш 30 гуртоў з Польшчы і з Беларусі. Абодва канцэрты ў пятніцу і суботу слухала 3-тысячная публіка.

## Беласток, Польшча

60 спевакоў-удзельнікаў хораў з Польшчы, Аўстрыі, Беларусі, Казахстана, Літвы і Украіны возьмуць удзел у VII-х Міжнародных мастацкіх маладзёжных warштатах (навучальных сустрэчах), якія пачынаюцца ў Беластоку. Маладыя артысты, пад наглядам знакамітых спевакоў Віялеты Бялецкай і Міраслава-Мацея Банаха, будуць удасканальваць свае вакальныя здольнасці і рыхтавацца да канцэртаў, з якімі выступяць у Слоніме, Зэльве, Волпе і Лідзе (Беларусь), а таксама ў Чарне-Беластоцкай, Гадышаве, Сакулцы і Беластоку. У праграме канцэртаў – польская харальая музыка і ""IV litania ostrobramska" Станіслава Манюшкі.

*Матэрыялы паводле бюлетэню ЗБС "Бацькаўшчына"*

## "АЛЯКСАНДРА І КАНСТАНЦІН" ЕДУЦЬ У ГОСЬЦІ ДА РУСЛАНЫ

Дуэт "АЛЯКСАНДРА І КАНСТАНЦІН" прадставяць праграму з нядауна выпушчанага дыску "МОЙ ГАЛІЛЕЙ - ЛЕПШАЕ" на Украіне. Масавыя сьвяточныя канцэртна-забаулялные праекты з нагоды Дня Незалежнасьці Украіны адбываюцца у Львове ужо 6 гадоу. За гэты час Львоу наведалі шматлікія зоркі украінскай ды эурапейскай эстрады. Сёлета львавянка РУСЛАНА перамагла на прэстыжным конкурсе "ЕУРАВІЗІЯ", таму жыхары гораду асабліва чакаюць ейнага выступу у родным горадзе, і менавіта на Дзень Незалежнасьці.

У выніку 24 жніуня яна дасьць вялікі канцэрт перад Опэрным тэатрам на цэнтральным пляцы горада, а таксама зьбярэ на сцэне сваіх былых супернікау па конкурсе, сярод якіх Жэлька ЁКСІМАВІЧ з Сэрбіі (ён заняу 2-е месца), дуэт "ЛІНАС І СІМОНА" з Літвы, Тошэ ПРАЕСКІ з Македоніі, а таксама нашыя "АЛЯКСАНДРА І КАНСТАНЦІН". "Мы падтрымліваем адносіны з многімі канкурсантамі, і РУСЛАНА зь іх ліку, а таму запрашэньне сталася яшчэ больш прыемным, - кажа вакалістка дуэта АЛЯКСАНДРА КІРСАНАВА. - Нягледзячы на усю цяперашнюю славу, РУСЛАНА зусім не задзірае нос ды па-ранейшаму лёгкая на уздым".

http://westrecords.by/ak (с) СЯРЭДНЯВЕЧНЫ ІНФАРМАТАР,

Газета «Маланка» издаётся на личные средства Владимира Кузьмича Яковенко.
Редакция выражает искреннюю благодарность Вам, Владимир Кузьмич,
и надеется на долгосрочное сотрудничество.



Рэдактар: Алег Рудакоў.
Заснавальнік: ІТБК імя Яна Чэрскага.

Адрас Рэдакцыі: 664011, Расія, г. Іркуцк, вул. Чэхава, 2
Тэлефон Рэдакцыі: (3952) 20-11-72
e-mail: malanka2000@mail.ru